# Забытая слава

## Кароткі агляд ваеннай гісторыі Беларусі

(Працяг. Пачатак ў №№ 34, 35).

Калі ў сярэдзіне XIV ст. у Смаленску часова перамагла прамаскоўская партыя, гэта сапсавала адносіны паміж двума суседзямі і родзічамі. У канцы 60-х гадоў пазіцыі Вялікага княства Літоўскага на Смаленшчыне ўзмацніліся: у 1367 г. Андрэй Альгердавіч Полацкі заняў Родню і Хорвач—два гарадкі на поўдзень ад Смаленска. У рэшце рэшт смаленскі князь Святаслаў Іванавіч стаў верным саюзнікам Вялікага княства і разам з вялікім князем Альгердам у 1368, 1370 і 1372 гг. змагаўся супраць маскоўскіх войскаў, якія імкнуліся перашкодзіць аб'яднанню беларускіх зямель. Смаленскія палкі хадзілі і на крыжакоў.

Дадаткова абвастрыліся адносіны паміж Вялікімі княствамі Маскоўскім і Літоўскім у сувязі з антымаскоўскімі тэндэнцыямі ў палітыцы Цвярскога княства, якое знайшло сабе саюзніка ў асобе беларуска-літоўскай дзяржавы. З гэтым і звязаны знакаміты паход 1375 г. на Маскву. Беларускія хронікі досыць красамоўна адлюстроўваюць тыя падзеі. На світанку вялікі князь Альгерд разам са сваім войскам узышоў на Паклонную гару. Маскоўскі князь Дзмітры (будучы Данскі), рэальна аценіўшы сілы і бачачы бесперспектыўнасць бітвы, першым прапанаваў замірэнне. «А пасля доўгіх намоваў даўся Альгерд да яднаньня й міра, але пад умовою, каб яму вольна было з часткаю рыцарства й панамі вернымі да замку Маскоўскага збройнымі ўехаць». У крамлёўскім саборы Альгерд заявіў: «Бачыш, княжа Дзмітрый, хто з нас раней на вайну ўстаў». Гэтыя падзеі і словы даюць магчымасць адзначыць мабілізацыйныя здольнасці беларуска - літоўскай дзяржавы і тактычную мабільнасць яе войска, што ў дадзеным выпадку з'явілася перадумовай перамогі. Падзеі адбываліся на Вялікдзень, і Альгерд падараваў Дзмітрыю чырвонае каляднае яйка, а затым зламаў сваю дзіду аб браму Масквы, каб Масква памятала, што беларуска-літоўскае войска было тут, «дзіду сваю Альгерд крушыў аб браму».

У выніку мірных перамоваў канфлікт быў заладжаны. Праўда, толькі часова.

Новы крызіс у адносінах беларуска-літоўскай дзяржавы і Вялікага княства Маскоўскага ўзнік ужо за часамі Вітаўта Вялікага. І гэтым разам асаблівая ўвага Масквы была звернута да Смаленска. Таму вялікі князь Вітаўт мусіў у 1405 г. падысці пад сцены Смаленска з вялікім войскам і артылерыяй. Здраднік князь Юры Святаславіч Смаленскі ўвайшоў у змову з Масквой і накіраваў паслоў да крыжакоў па дапамогу. У адсутнасці князя Вітаўт з удзелам смалян увайшоў у горад.

Але толькі пасля Дуброўны (Грунвальда) і ліквідацыі крыжацкай пагрозы беларуска-літоўскі гаспадар здолеў па-сапраўднаму супакоіць Маскву. Падставаю для вайсковага паходу было абрабаванне ў 1416 г. пад Пуціўлем маскоўцамі беларускіх купцоў. Вітаўт Вялікі досыць хутка з'арганізаваў вайсковую экспедыцыю. Два войскі сустрэліся на р. Вугры. Патрабаванні беларуска-літоўскага гаспадара былі наступнымі: пакаранне рабаўнікоў і кампенсацыя маскоўскім бокам вайсковых выдаткаў. Падчас перамоваў адзін з беларускіх рыцараў Андрэй, не вытрымаўшы, ускрыкнуў: «Не мірыся, Вітаўце, не мірыся, таму што на самой справе мы з Масквою яшчэ не біліся!» Маскоўцы выканалі ўсе патрабаванні Вялікага князя Літоўскага.

У выніку вайсковых і дыпламатычных дзеянняў Беларуска-Літоўская дзяржава пашырыла межы на ўсход. Ягоная мяжа праходзіла ажно каля сучаснага Мажайска —за 107 вёрст ад Масквы.

Вялікі князь Гедымін.

Ужо пры вялікім князі Казіміры, у 1458 г., адбылася наступная вайна. Маскоўскі князь Васіль сабраў вялікае войска, заклікаўшы на дапамогу казанскага хана, і падышоў да Вязьмы, якая тады належала Вялікаму княству Літоўскаму. Па шляху маскоўцы «руйнавалі й палілі воласьці». Па Беларусі і Літве князь Казімір таксама склікаў войска, наняўшы дадаткова польскіх жаўнераў. Гетманам быў пастаўлены беларускі магнат Станіслаў Кішка. Вялікі князь Казімір застаўся ў Смаленску, а гетман рушыў з войскам насустрач маскоўцам. Але вораг ужо паспеў вывесці свае аддзелы з тэрыторыі беларуска - літоўскай дзяржавы. Па слядах праціўніка гетман Кішка ўварваўся ў маскоўскія воласці, узяў крэпасці Мажайск, Казельск, Веру, Калугу. Калі Масква падцягнула 15-тысячнае войска, гетман Кішка хутка адрэагаваў на з'яўленне такой значнай сілы. У сваім тылу беларускі гетман «у хітрых засадах» пакінуў аддзелы Зіновіча і двух Радзівілаў, а сам выступіў насустрач ворагу. «Масква..., у вялікасці войска свайго, вельмі ахвотна... ударыла» па беларускіх аддзелах Кішкі. Гетман у сваю чаргу пачаў адводзіць хутка сваё войска і прывёў Маскву на Зіновічавы і Радзівілавы роты, наўмысна пастаўленыя ў засадзе, а потым сам Кішка абярнуўся, а Зіновіч і Радзівілы ўдарылі па ворагу з бакоў. Дзве мілі гнала беларуска-літоўскае войска маскоўцаў, «секучы, рубячы, колючы». Гэта паведамленне «Кронікі Літоўскай і Жамойскай» асабліва каштоўнае тым, што знаёміць нас з тактыкай бою беларускіх ваяроў супраць пераважаючага праціўніка.

У другой палове XV стагоддзя на паўднёвых межах Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага з'явіўся моцны і небяспечны вораг—Крымскае ханства. Гэтая дзяржава ўтварылася ў выніку распаду калісьці магутнай Залатой Арды. Крымскія ханы, татарская вярхушка жылі за кошт пастаянных нападаў на суседнія землі. Войны і рабункі былі заўжды іхнім рамяствам і сродкам існавання. Асаблівую каштоўнасць для татараў уяўлялі палонныя, у першую чаргу маладыя і дужыя людзі, якіх яны потым прадавалі за вялікія грошы на нявольніцкіх рынках Крыма і Турцыі. Вялізным попытам карысталіся дзяўчынкі, якія папаўнялі ханскія і султанскія гарэмы.

Галоўным аб'ектам для сваіх спусташальных набегаў крымскія ханы абралі багатыя, урадлівыя землі свайго паўночнага суседа — Вялікага княства Літоўскага. Апроч прагі нажывы, іх падштурхнула на тое і палітычная прычына: у 1480 годзе паміж крымскім ханам Менглі-Гірэем і маскоўскім уладаром Іванам III было заключана пагадненне аб сумеснай барацьбе з Вялікім княствам Літоўскім. Крымскі хан паабяцаў Маскве ваяваць землі вялікага князя літоўскага Казіміра.

Першымі пад удар крымчакоў трапілі паўднёвыя землі Вялікага княства Літоўскага — Падолле, Валынь, Кіеўшчына, Ноўгарад-Севяршчына. Татары палілі гарады і вёскі, рабавалі цяжкай працай нажытае дабро, выводзілі ў палон насельніцтва. Наезды на землі Вялікага княства рабіліся штогод, а часам — некалькі разоў на год. Шматлікія мурзы і князі, ханскія сыны, маючы свае ўласныя войскі, рабілі самастойныя набегі. У 1482 годзе крымчакі, падбухтораныя Іванам III, захапілі старажытны Кіеў, спалілі Пячорскі манастыр, разрабавалі святыню ўсіх праваслаўных жыхароў Вялікага княства Літоўскага — Сафійскі сабор. Пасля такога злачынства Менглі-Гірэй падараваў шэраг нарабаваных упрыгожванняў з Кіеўскай Сафіі абаронцу «истинного православия» маскоўскаму князю Івану III, якія той з удзячнасцю прыняў. З канца XV ст. крымскія татары ўрываліся і на тэрыторыю сучаснай Беларусі. У 1497 годзе непадалёку ад Мазыра яны забілі мітрапаліта кіеўскага і ўсея Русі Макарыя. Пад час вайны 1500 — 1503 гадоў паміж Вялікім княствам Літоўскім і Маскоўскаю дзяржаваю Іван III неаднаразова інструктаваў Менглі-Гірэя, каб крымскія загоны накіроўваліся ў бок Слуцка, Турава, Пінска, Менска з мэтай паслабіць заплечча абароны на ўсходняй мяжы Вялікага княства Літоўскага. Карыстаючыся тым, што асноўныя сілы Вялікага княства Літоўскага знаходзіліся на ўсходзе дзяржавы, дзе ваявалі з Масквой, крымчакі ў гэты час пастаянна пустошылі беларускія землі. У 1500 г. яны спалілі Бярэсце і ягоныя ваколіцы, восенню 1502 года перайшлі Прыпяць і пачалі ваяваць за землі каля Турава, Пінска. Славуты слуцкі князь Сямён Міхайлавіч Алелькавіч перахапіў крымчакоў у 6 мілях ад Бабруйска, на рацэ Уша, ушчэнт разбіў іх, вызваліўшы з няволі ўвесь палон. У наступным 1503 годзе 6-тысячны татарскі аддзел, узначалены сынам самога хана Біці-Гірэем, прыйшоў пад Слуцк і стаў там кошам (лагерам). Распушчаныя па Беларусі татарскія загоны спустошылі ваколіцы Капыля і Нясвіжа, спалілі Клецкі замак. Даведаўшыся пра падыход вялікага войска, татары павярнулі назад і адышлі ў Крым са значным палонам. У тым жа 1503 годзе 3-тысячны татарскі аддзел зноў спустошыў ваколіцы Слуцка, ваяваў непадалёку ад Навагрудка. На гэты раз ім не ўдалося вольна вярнуцца ў Крым. Войска Вялікага княства Літоўскага на чале з Сямёнам Алелькавічам, Станіславам Кішкам, Юрыем Няміровічам і Альбрэхтам Гаштольдам дагнала татараў за мілю ад Давыд-Гарадка і разбіла іх.

У 1505 годзе крымчакі здзейснілі самы спусташальны набег на Беларусь. Тры ханскія сыны — Махмет-Гірэй, Біці-Гірэй і Бурнас, пераправіўшыся са сваім войскам праз Дняпро ля Лоева, дзе знаходзіліся знакамітыя «татарскія броды», накіраваліся ў цэнтр Беларусі. Старэйшы царэвіч Махмет-Гірэй павёў свой аддзел у накірунку Менска і далей Полацка, Друцка, Віцебска, а ягоныя малодшыя браты пайшлі пад Слуцк. Татары спрабавалі ўзяць слуцкі замак, але мужныя случчакі адбілі ўсе іхнія атакі. Тады Біці-Гірэй і Бурнас рушылі пад Навагрудак, але і там замкавы гарнізон на чале з намеснікам Альбрэхтам Гаштольдам і гараднічым Маскевічам прымусіў іх адступіць ад гарадскіх муроў. Татарскія загоны папалілі тады ваколіцы шмат якіх беларускіх гарадоў, пазнішчалі вёскі і вывелі ў Крым вялізны палон.

Спадзеючыся на беспакаранасць, летам 1506 года Біці-Гірэй і Бурнас на чале з 30-ці тысячным войскам уварваліся на Беларусь. Татары сталі кошам каля Клецка, распусціўшы загоны ў навагрудскім накірунку. Але на гэты раз яны не ўніклі адплаты. Зрабіўшы імклівы пераход ад Ліды да Клецка, менскія, навагрудскія і гарадзенскія апалчэнцы пад кіраўніцтвам князя Міхаіла Глінскага дазвання разграмілі татараў 6 жніўня пад Клецкам. Тысячы варожых трупаў засталіся ляжаць на берагах рэк Лань і Цапра. Быў вызвалены вялікі палон у 40 тысяч чалавек, якіх крымчакі збіраліся вывесці ў свае ўладанні.

У далейшым, нягледзячы на шэраг замірэнняў з Вялікім княствам Літоўскім, крымскія татары працягвалі пустошыць беларускія землі. Найбольш буйнымі былі іхнія набегі ў 1508, 1510, 1521, 1527 гг. З мэтаю абараніць краіну ад татарскіх нападаў, а ім спрыяла слабасць паўднёвых межаў краіны, новы вялікі князь літоўскі Жыгімонт II павялічыў «узмежную старожу», узмацніў замкі і крэпасці перадавым узбраеннем і ратнымі людзьмі. У планах Жыгімонта II былі і шырокія наступальныя аперацыі супраць Крымскага ханства. Ваенныя мерапрыемствы і дыпламатычныя захады Вялікага княства Літоўскага далі ўрэшце дзейсныя вынікі. У 1527 годзе войска Вялікага княства Літоўскага, якім кіравалі гетман Канстанцін Астрожскі, слуцкі князь Юры Сямёнавіч Алелькавіч (сын знакамітага Сямёна Алелькавіча) і чаркаскі ваявода Аставій Дашковіч, разбіла ўшчэнт 24-тысячнае татарска-турэцкае войска ля Альшаніцы, у 40 мілях ад Кіева. Пасля таго, як у 1530 годзе князь Іван Дубровіцкі разграміў чарговы раз крымскіх наезнікаў, якія ўварваліся на Беларусь, іхнія напады на Вялікае княства сталі радзейшымі і менш адчувальнымі.

У канцы XV стагоддзя, калі Маскоўская дзяржава ўвабралася ў сілу і, падбіваючы суседнія землі, усутык падышла да межаў беларуска-літоўскага гаспадарства, вялікі князь маскоўскі Іван III адважыўся на адкрытую экспансію. Чыста захопніцкая палітыка была абгрунтавана тэзісам аб праве Масквы на абшары ўсёй былой імперыі Рурыкавічаў. Абвясціўшы тэрыторыі Беларусі і Украіны сваімі, маскоўскі ўладар падгаварыў крымскага хана актыўней нападаць на Беларусь з поўдня ды ў 1492 годзе распачаў першую вайну супраць Вялікага Княства Літоўскага. Адразу тры вялікія арміі з розных бакоў увайшлі ў беларуска-літоўскае гаспадарства і хутка занялі шэраг гарадоў. Вільня зусім не чакала інтэрвенцыі і не рыхтавалася да адпору. Вялікае Княства больш як паўстагоддзя наогул не ведала войнаў. Новы гаспадар Аляксандр хацеў залагодзіць канфлікт і накіраваў у Маскву паслоў са скаргамі на беспрычыннае парушэнне міру Маскоўскай дзяржавай і прапанаваў спыніць вайну. Яго стараннямі ў 1494 годзе было заключана новае замірэнне, замацаванае дынастычным шлюбам: дачка маскоўскага ўладара Алена выходзіла за вялікага князя Аляксандра і пераязджала ў Вільню.

На жаль, сваяцтва манархаў не прынесла спакою ўсходнім межам Беларусі. Спачатку Іван III актывізаваў крымскіх татараў, якія штогод нападалі на Вялікае Княства, а ў 1500 годзе сам распачаў чарговую захопніцкую вайну. Вялікі князь Аляксандр спрабаваў ізноў апеляваць да сумлення, пісаў цесцю, што беларуска-літоўская дзяржава не мае аніякай віны перад Масквой, прасіў не праліваць больш хрысціянскай крыві, адзначаў, што адказнасць за ўсё кладзецца на Івана III —парушальніка клятвы. Але марна. Маскоўскае войска тым часам займала новыя землі — Севершчыну, Браншчыну, гарады і воласці Смаленшчыны.

Бараніць межы краіны паспяшаўся князь Кастусь Астрожскі — найвышэйшы гетман (галоўнакамандуючы) Вялікага Княства Літоўскага. Вясной 1500 года ён сабраў у Вільні першнікаў — каго паспеў — ды хутчэй рушыў праз Менск да Смаленска. Маскоўскія ваяводы стаялі каля Дарагабужа. Іх аб'яднаныя сілы сягалі 40 тысяч ратнікаў, а ў Астрожскага мелася толькі 4 тысячы. Здавалася, весці 4 на 40 — самагубства! Але гетман пасля нядоўгай нарады вырашыў: «Мала ці многа масквічоў будзе, ды толькі ўзяўшы Бога ў падмогу біцца з імі, а нябіўшыся —назад не вяртацца». Сеча адбылася 14 ліпеня пад Дарагабужам. Малалікая конніца Астрожскага спачатку ашаламіла ворага атакай, але потым, сціснутая маскоўскімі палкамі, цалкам прайграла бітву. Загінулі лепшыя вайсковыя сілы Вялікага Княства, сам гетман трапіў у палон. Гэта была першая значная перамога маскоўскага войска над беларуска - літоўскім у полі. Праўда, ваяводы Івана III мала пакарысталіся такім поспехам. Яны займаліся пераважна пусташэннем валасцяў.

Тым часам Вялікае Княства падпісала унію з Польшчай, заключыла дыпламатычны саюз з Ордэнам і Заволжскай Ардой і гэтым прымусіла Маскву пайсці на перамовы. У 1503 годзе Масква і Вільня падпісалі дамову аб замірэнні на 6 год. Па ўмовах замірэння беларуска-літоўскае гаспадарства страчвала вялізныя тэрыторыі з гарадамі Чарнігаў, Ноўгарад-Северскі, Бранск, Любеч, Старадуб, Мцэнск, нават Гомель і інш. Але і на гэты раз мір пратрываў нядоўга.

(Працяг будзе).

Форма і зброя дзесятніка і радавога выбарца.

---

**Большасць нашага грамадства з піетэтам ставіцца да рамантычнай фігуры фермера. Дастаткова горда заявіць: «Я фермер» — і народ пачынае глядзець з нічым не прыхаванай цікаўнасцю: «У—у, фермер, бач ты...» Так што пакуль усё — больш у плоскасці рамантыкі, паўторым. А што за чалавек такі збіраецца нас накарміць і ці сапраўды яму гэта трэба, і ці здзейсніцца грандыёзная яго задумка, — гэта неяк адыходзіць на другі план. Прапануем спусціцца на зямлю і з дапамогай дырэктара Беларускага рэспубліканскага вучэбнага цэнтра (таго самага, дзе куюцца кадры фермераў) М. А. Шухно атрымаць адказы на гэтыя надзённыя пытанні. Прычым зробім гэта праз прызму суседскага, польскага вопыту. Штосьці параўнаем, аб чымсьці паразважаем, — словам, варыцца будзем не толькі ў асабістым соку.**

# Погляд на сябе праз польскую «прызму»

### ПОЛЬСКІЯ ФЕРМЕРЫ СУМУЮЦЬ. АЛЕ ЖЫВУЦЬ НЯДРЭННА

**— Мікалай Аляксандравіч, я ведаю: навучэнцы вашых курсаў выязджаюць у Польшчу на стажыроўку. Які тут парадак?**

— Мы дамовіліся з такім жа вучэбным цэнтрам у Беластоку аб безвалютным абмене групамі навучэнцаў. Польскія фермеры едуць да нас, нашы — да іх. Усё — на добраахвотнай аснове. Хочаш мець вопыт, — калі ласка, не — таксама твая справа. Бо афармленнем дакументаў займаюцца самі слухачы.

**— Прабачце за нетактоўнае пытанне: чаму ў нас можна навучыцца?**

— Аказваецца, можна. Палякам на семінарах мы расказваем, напрыклад, аб вопыце Шарэцкага, які сам стварае, «гадуе» і даводзіць да ладу фермерскія гаспадаркі. Старшыня калгаса, вучоны, чалавек з перспектывай, але на веру нашы госці яго навацый не прымалі. Добра, вязём іх на Валожыншчыну, паказваем усё, так бы мовіць, у натуральную велічыню. Пытанні знікаюць, іх змяняе шчырае адабрэнне. Кажуць: так і трэба. Толькі так атрымаецца фермер, які накорміць.

**— Ну, а ў самой Польшчы як зараз справы?**

— Калі коратка — то дрэнна. У сельскагаспадарчай вытворчасці назіраецца спад. Рынак насычаны ў першую чаргу імпартным харчаваннем, сваё збыць даволі цяжка, хоць і магчыма. Другое — рэзкае павышэнне цэн на ядахімікаты, паліва, угнаенні, запчасткі, паслугі. Скажам, фермеру нявыгадна наймаць камбайн, каб убраць збожжа ці бульбу, бо разлік трэба рабіць адразу ж. Малыя фермы (па 10—15 гектараў і менш) ледзь-ледзь зводзяць канцы з канцамі. Я гутарыў з многімі, але, на жаль, лічбавы матэрыял прадаставіць не магу: там не прынята гаварыць аб даходах-выдатках. Агульны ж вывад можна зрабіць такі: дробныя гаспадаркі, відаць, асуджаны на паступовае выміранне.

**— Значыць, разумныя людзі праўду кажуць, што спачатку трэба вызначыць аптымальную плошчу гаспадаркі, каб яна сама сябе акуплівала?**

— Менавіта так. Больш таго, вядучыя польскія эканамісты схіляюцца да ўзбуйнення аптымальнай плошчы да 120—130 гектараў. Усё так, 30—50-гектарныя фермы адчуваюць сябе ўжо даволі ўпэўнена. Я пазнаёміўся з моцным гаспадаром, панам Савіцкім, ён валодае 50 гектарамі. Ну, вядома ж, выдатны дом-палац, ферма функцыяніруе як гадзіннік. Гаспадарка традыцыйнага напрамку: жывёлагадоўля і раслінаводства. Уся тэхніка знаходзіцца ў ангарах — а для мяне гэта самы галоўны паказчык. Ёсць усё патрэбнае: 3 трактары, камбайны збожжа- і бульбаўборачныя, увесь набор неабходнага інвентару. Сам Савіцкі мае 2 вышэйшыя адукацыі: інжынера-будаўніка і агранома. Так што можаце меркаваць аб узроўні кампетэнтнасці і прафесіяналізму. Але вось са збытам ёсць некаторыя праблемы. Малако і мяса Савіцкі здае на дзяржаўныя перапрацоўчыя заводы, тое, што застанецца, — у асноўным у рэстараны і сталовыя. Прадаць удаецца амаль усё, але цана невялікая. Напрыклад, кілаграм свініны ў жывой вазе, — 12 тысяч злотых (крыху больш за долар, цана пачка амерыканскіх цыгарэт. — **С. Ш.**). Гэта нявыгадна і, калі Савіцкі жыве нядрэнна, то толькі за кошт памераў фермы, якая дазваляе вырабляць больш прадукцыі пры меншым яе сабекошце. Дробным, як я гаварыў, цяжэй.

**— Толькі па гэтай прычыне польскі селянін нездаволены?**

— Як ні дзіўна, але рашэнне прэзідэнта Валенсы ліквідаваць дзяржгасы таксама не знайшло шырокага адабрэння. Справа ў тым, што польскія дзяржгасы спецыялізаваліся пераважна на вырошчванні элітнага і суперэлітнага насення. Як быць зараз? Спадзявацца на фермераў? У іх няма ні ўмоў, ні адпаведнай тэхнікі, ды і проста нявыгадна займацца насенняводствам у таварнай гаспадарцы. Збіраюцца вярнуцца да старых метадаў, калі вучоныя размнажалі новы сорт з дапамогай фермераў. Але ж гэта малы маштаб, тыражаванне перспектыўнай расліны дабіцца такім шляхам вельмі цяжка.

**— Мікалай Аляксандравіч, яшчэ адно вельмі актуальнае пытанне: ці наймаюць польскія фермеры сезоннікаў, а яшчэ больш актуальнае — колькі плацяць?**

— Вядома ж, наймаюць, але толькі выключна на перыяд уборкі. Ці то бульбы, ці збожжа, ці садавіны. Максімальная аплата — 10 тысяч злотых за гадзіну. Могуць менш, а больш — не. Рабочы дзень — 10 гадзін, так што лічыце.

### «УСХОДНІЯ КРЭСЫ» НА ФОНЕ МАЗУРСКІХ БАЛОТ

**— Нашы будучыя фермеры, як я разумею, у Польшчы не толькі слухалі лекцыі, а і...**

...працавалі, канешне.

**— Як?**

— Ну, вось нашу «пладоваягадную» групу (такая ў іх спецыялізацыя) я павёз у Познаньскае ваяводства да фермера, які на 7 гектарах вырошчвае клубніцы, маліну і парэчкі. Нас было 17. Побач працавалі наёмныя палякі. Зазначу: фермер сам прызначае аплату ў залежнасці ад колькасці і якасці працы. Ну, палякі свае 10 гадзін адпрацавалі як належыць і, як гаворыцца, «пашабашылі». Некаторыя таварышы з нашай групы, прабачце, селі ў лужыну. Праца цяжкая, канешне, і хапала іх на 3—4 гадзіны ў дзень. Астатні час яны адпачывалі. У асноўным гэта былі гараджане. Адпаведна плацілі ім па 3—4 тысячы злотых. Сельскія жыхары ёсць сельскія, і 10 гадзін яны аддавалі. Ім фермер плаціў па 6 тысяч за гадзіну. Вось такія нашы сумныя справы.

**— А што казалі польскія фермеры пра нашых будучых фермераў у прыватных размовах?**

— А вы ведаеце, адгукаліся станоўча. Казалі, што ў большасці нашых ёсць шчырае імкненне набыць вопыт і навучыцца працаваць па-сапраўднаму. Такія звычайна дамаўляюцца з гаспадаром і потым вяртаюцца, працуюць па месяцу.

**— Пэўна, тут нам патрэбен не столькі тэхналагічны вопыт, колькі вопыт інтэнсіўнай працы?**

— І я пра гэта. Усіх, хто хоча працаваць на зямлі, трэба абавязкова «прапускаць» праз Польшчу. Там у многіх адбываецца пераацэнка каштоўнасцей праз прымітыўны натуральны адбор. Вытрымаў — працуй. Значыць, любіш зямлю і нішчыць яе не будзеш. З той жа вось познаньскай групы пасля практыкі знайшліся такія, што не сталі нават экзамены здаваць. Ім усё стала ясна. Не трэба іх судзіць строга: людзі не разумелі, чым збіраюцца заняцца.

**— Што нашых больш за ўсё здзівіла ў суседзяў?**

— Тое, што жонка фермера ніякага дачынення да яго спраў не мае. Яе задача—хатняя гаспадарка, дзеці. Яна робіць усё, каб муж, скончыўшы працоўны дзень, як мага хутчэй аб ім забыў. Спецыяльна для гэтага ў Беластоцкім вучэбным цэнтры працуюць курсы для гаспадынь, дзе іх вучаць гатаваць, прымаць гасцей, вязаць. І нездарма адна наша слухачка на традыцыйнай канферэнцыі пасля стажыроўкі заявіла, што яе больш за ўсё ўразілі чысціня і ўтульнасць дома польскага селяніна. Дарэчы, і мы летась спрабавалі арганізаваць падобныя курсы, далі аб'яву. Ніводнай заявы не паступіла. Нашы фермеры трымаюць жонку за дадатковага каня ў гаспадарцы. Затое ў хату да некаторых можна смела заходзіць у ботах. Жаданне зняць іх не з'яўляецца.

### ХТО ЯКІЯ ВЫБІРАЕ ДАРОГІ

**— Мы, Мікалай Аляксандравіч, падышлі да галоўных пытанняў: хто, чаму, па якой прычыне?**

— Так-так, тут ёсць аб чым пагаварыць. У нашых навучэнцаў іншы раз вельмі розныя погляды на сваю будучую дзейнасць. Гутарым пры прыёме, пытаем: чаму вырашылі стаць фермерам? «Люблю гэтую справу, вырас у вёсцы, усё ведаю», — з гэтым ясна. Другога пытаю: вы ж гараджанін, навошта вам гэта? Пачынае развіваць сваю ідэю: фермеру першыя гады не трэба плаціць падатку, за гэты час разгарнуся, арганізую выгадны бізнес. Добра, разварочвайся, але вось льготы скончыліся. Ну і што, адказвае, як разгарнуўся, так і згарнуся, займуся яшчэ нечым. Такім чынам, для яго гэта проста бізнес. Сапраўды так, па вялікаму рахунку — гэта бізнес. Але спецыфічны. Калі новую машыну можна зрабіць даволі лёгка, то аднавіць урадлівасць зямлі можна толькі за гады і гады ўпартай працы.

Яшчэ варыянт. Адзін таварыш узяў у Дзяржынскім раёне некалькі гектараў, жывучы пры гэтым у Мінску. Там жа сям'я. «Збіраешся перавозіць?» — «Не». — «Чаму?» — «А так, наёмных буду запрашаць». Добра, наёмныя дык наёмныя, а ці не ўзвыеш ты праз нейкі час нібы воўк у піліпаўку? Ці не кінеш усё і не паляціш да жонкі і дзяцей? Слухаеш такія адказы і думаеш, чаго тут больш: ці наіўнасці, ці проста глупства? А ўжо што элементарнага неразумення спецыфікі сельскага жыцця вельмі зашмат — тут сумненняў няма.

**— Што ж здзіўляцца, Мікалай Аляксандравіч, мы ўсе савецкія людзі...**

— У нас вучылася жанчына з вышэйшай адукацыяй, заатэхнік. Экзамен не здала, палічыла ніжэйшым за сваю годнасць вывучаць тое, што ўжо некалі вывучала. Такой даць зямлю? Не ведаю, не ведаю. У нас бываюць памылкі, канешне, але далейшы адбор павінен праводзіць той орган, які надзяляе зямлёй. У кожнай групе некалькі чалавек не вытрымліваюць дзяржэкзамена (у апошняй было трое). Ну, прабачце, паважаныя, вам жа на зямлі працаваць, вам паліваць яе сваім потам! Так што добра падумайце, ці варта час губляць. Сур'ёзныя веды мы дадзім, але адказна выконваць справу, за якую ўзяўся, — гэтаму не навучым. Гэта ў крыві павінна быць.

**— Дзякуй, Мікалай Аляксандравіч. Будзем спадзявацца, што вашы словы прымусяць задумацца не толькі тых, хто збіраецца нас накарміць.**

**Гутарыў Сяргей ШАЎЦОЎ.**

---

ФЕЛЬЕТОН

# Туфельны крымінал

Не паспеў дырэктар гасцініцы «Нарач» Часлаў Іосіфавіч Бялячыц пераступіць парог свайго кабінета, як убеглі ўсхваляваныя пакаёўка і адміністратарка.

— Надзвычайнае здарэнне, таварыш дырэктар...

— У люксе, у дваццаць трэцім нумары,— наперабой застракаталі яны.

— Дык што там такое? Гадым ці тонем? — хапаючыся за тэлефонную трубку, перапытаў Бялячыц.

— Спынілася гэта я ўчора ля дзвярэй люкса,—пачала пакаёўка.

— Не, гэта я першая спынілася ля дваццаць трэцяга нумара, каб паслухаць, што там робіцца,— нервова перапыніла яе распаўнелая адміністратарка.

— Ды хопіць! Што вы растрашчаліся, як тыя сарокі? Хіба важна, хто першы прыклаў вуха да дзвярэй? Важна, што там рабілася,— павысіў голас Часлаў Іосіфавіч.

З усхваляваных дакладаў сваіх падначаленых ён даведаўся, што ў мінулы дзень, у 16 гадзін 43 з палавай мінуты ў пакой № 23, дзе жылі двое адпачываючых санаторыя «Нарач» (прозвішчы іх называць не будзем па той прычыне, што гэта былі самыя звычайныя адпачываючыя), зайшлі пяцёра іх сяброў. Дарэчы, таксама з ліку адпачываючых і пражываючых на тэрыторыі санаторыя, каб павіншаваць адну са сваіх знаёмых з яе прафесіянальным святам. У 19 гадзін 12 хвілін госці і гаспадыні пакінулі памяшканне. У час іх адсутнасці пакаёўка знайшла ў халадзільніку бутэльку з-пад каньяку.

— І гэта ўсё? — голасам чалавека, ад якога раптам адвярнулася шчасце, выціснуў з сябе Часлаў Іосіфавіч.— Больш ніякага кампрамату? Таксама мне сышчыкі!..

— А што, калі прыпісаць калектыўную п'янку? Бутэлька ж з-пад каньяку ёсць. Значыць, пілі. А ў нашай санаторнай зоне на выпіўку мараторый аб'яўлены,— падала думку вострая на язык пакаёўка Тарэза.

— Якая там п'янка? — зморшчыўся, як ад зубнога болю, Бялячыц.— Пляшка на сем чалавек. Колькі там на нос прыпадзе, смеху варта... Да таго ж, сухога закону на тэрыторыі нашай гасцініцы пакуль не ўводзілі. Вось каб, скажам, яны тэлевізар разбілі, мэблю паламалі ці ноччу ў скокі пайшлі...

— Нічога, пойдзем пашукаем кампрамат на месцы. Не можа таго быць, каб сем чалавек не пакінулі пасля сябе нейкага слядочка,— упэўнена сказаў дырэктар.

На першы погляд, усё ў дваццаць трэцім нумары было «ў ажуры», як любіў гаварыць Часлаў Іосіфавіч. У прыхожай, гасцінай, спальні, ванным пакоі рэчы былі на сваіх месцах. Уключылі тэлевізар — працуе, радыё таксама голас падало.

Раптам пільны погляд Часлава Іосіфавіча спыніўся на туфлях, што стаялі ў прыхожай. Радасны крык вырваўся з яго грудзей.

— Ці не здарылася чаго непапраўнага ад хвалявання і перанапружання з нашым шэфам? — не на жарт устрывожыліся жанчыны, якія шукалі «кампрамат» у ванным пакоі. Навыперадкі кінуліся на крык і ўбачылі Часлава Іосіфавіча з туфлем у руках.

— Што гэта? — не ўтойваючы радасці, спытаў ён.

— Туфель, здаецца, — выдыхнула пакаёўка.

— Сам ведаю, што не кулямёт,— адрэзаў начальнік.— Але звярніце ўвагу — які туфель?!

— На шпільцы,— унеслі яснасць жанчыны.

— Вось вам і доказ!— таямнічым голасам Шэрлака Холмса вымавіў Бялячыц.

— А што, хіба паступіў цыркуляр, каб жанчыны не хадзілі на высокіх абцасах? — пацікавілася адміністратарка.

— Пакуль не было, але абавязкова выдам такі цыркуляр. Ёсць след! Так і ведаў, што знайду! — раптам радасна ўсклікнуў ён.— Вось і яшчэ адзін адбітачак ад абцасікаў... Ну, модніцы, пачакайце!

Заўважыўшы, што жанчыны не разумеюць яго, Бялячыц важна рассеўся на канапе і загаварыў павучальным тонам:

—Цяпер зразумелі, якую крамолу ўяўляе сабой жаночы туфлік на тонкім абцасіку? І якую шкоду ён можа нанесці дзяржаве? Непамерную! Калі б нашы кліенткі дбалі аб дзяржаўнай маёмасці, у даным выпадку аб падлозе, яны б ведалі, што заходзіць на шпільках у нумар гасцініцы нельга. Прыйдзецца выкласці грошыкі на рамонт нумара. Ды яшчэ па месцы работы паведамім —няхай ведаюць у калектывах, каго і ў якіх туфлях яны лячыцца накіроўваюць.

Забягаючы наперад, скажам, што нанесеныя страты, паводле падлікаў Бялячыца, склалі 70 рублёў з капейкамі. Сюды ён аднёс кошт лаку, які сцёрлі жаночыя шпількі, аплату рабочым, якія гэтым лакам будуць вэдзгаць падлогу, а таксама тры дні прастою люкса, на працягу якіх павінен сохнуць гэты лак.

Цэлы тыдзень адміністратарка і пакаёўка не давалі адпачываючым спакою, усё прымушалі падпісаць каштарыс нанесенай страты. Тыя не раз плакалі ад абразы, хапаліся за валідол і валакардзін. Давялося нават звяртацца ў Нарачанскі пасялковы Савет, прасіць абароны ад санаторнага тырана.

Праўда, у час разбору канфлікту яму было ўказана на процізаконныя дзеянні, прапанавана папрасіць прабачэння ў пакрыўджаных. Былы партыйны функцыянер стаяў на сваім: прабачэння ён прасіць не будзе, а на работу паведаміць і аплаціць за рамонт прымусіць. І, што вы думаеце, стрымаў сваё слова. Накіраваў пісьмы ў адрас кіраўнікоў тых арганізацый, дзе працуюць жанчыны, а разам з імі і каштарыс на аплату «нанесенай шкоды».

Тым, хто збіраецца адпачываць у санаторыі «Нарач» і жыць у гасцініцы, дырэктарам якой з'яўляецца непатапляльны Ч. Бялячыц, хачу даць параду: ні ў якім разе не бярыце ў дарогу моднага абутку. Лепш за ўсё мець пры сабе галёшы (можна і гумавыя боты) летам і валёнкі зімой. Калі ў вас няма такога абутку або вы не можаце абысціся без модных туфель на тонкіх абцасах — загадзя збірайце грошы на рамонт гасцініцы. Якую суму браць з сабой? Думаецца, адказ на гэтае пытанне дадуць кіраўнікі Мінскай абласной асацыяцыі «Камунальнік», якой непасрэдна падначалена гасцініца «Нарач».

А яшчэ хацелася б ведаць, як ставіцца да шокавай тэрапіі, што прымяняе да адпачываючых няўрымслівы Часлаў Іосіфавіч, адміністрацыя санаторыя «Нарач», якая арандуе гасцініцу з аднайменнай назвай. Ёсць пытанне і да кіраўнікоў Нарачанскага пасялковага Савета: ці не замнога дырэктараў на санаторным пятачку?

Іншая справа, калі Ч. Бялячыц па сумяшчальніцтву працуе прыватным дэтэктывам...

**Уладзімір ЛОГІНАЎ.**

# Магілёўская універсальная рэгіянальная біржа




Брокерскія канторы а/т „МУРБ”







## ПОСПЕХІ АТ «МУРБ» ГАВОРАЦЬ САМІ ЗА СЯБЕ

**1. ПЫТАННЕ:** Большасць біржа краіны пачынае работу з дэклараваных устаўных фондаў. Як працуе ваша біржа?

**АДКАЗ: Наш устаўны фонд быў не дэклараваны, а ўнесены заснавальнікамі. Так што мы пачыналі работу з капіталам у руках.**

**2. ПЫТАННЕ:** Як вядома, чым больш брокерскіх кантор, месц і брокераў на біржы, тым больш прыбытковай яна становіцца. Чым вы зацікаўліваеце прадпрымальнікаў?

**АДКАЗ: Сёння брокерскія канторы біржы ахопліваюць амаль усю эканамічную прастору былога СССР, а цяпер СНД. На таргах можна бачыць прадстаўнікоў любой суверэннай дзяржавы, уваходзячай у СНД.**

**3. ПЫТАННЕ:** Якія аб'ёмы вашых таргоў як па выстаўленых таварах, так і заключаемых здзелках?

**АДКАЗ: Аб'ёмы выстаўленых тавараў і сумы здзелак гавораць самі за сябе. Калі тавараў на таргі выстаўляецца на 1—1,5 млрд. рублёў, то сумы заключаных здзелак растуць у арыфметычнай прагрэсіі. На кожных таргах заключаецца здзелак на суму, якая перавышае папярэднія не менш чым удвая-ўтрая.**

**4. ПЫТАННЕ:** Чым выкліканы ваш поспех?

**АДКАЗ: У першую чаргу тым, што кошт акцый і брокерскіх месц не змяняецца. На кожную прададзеную акцыю ці брокерскае месца прыпадае некалькі заявак і гарантыйных пісьмаў на аплату. Дарэчы, за няпоўныя 9 месяцаў работы біржы ў 1991 годзе колькасць брокерскіх месц на ёй павялічылася з 15 да 220. Цяпер яна прадстаўлена практычна ва ўсіх буйных рэгіёнах СНД.**

**АКЦЫЯНЕРНАЕ ТАВАРЫСТВА «МАГІЛЁЎСКАЯ УНІВЕРСАЛЬНАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ БІРЖА»**

***запрашае да супрацоўніцтва свабодных прадпрымальнікаў.***

## СПАДАРЫ!

КАЛІ ВЫ ХОЧАЦЕ ВЫГАДНА ПРАДАЦЬ СВОЙ ТАВАР ЦІ ШТОСЬЦІ НАБЫЦЬ ПА ДАСТУПНЫХ ЦЭНАХ,

**ЗВЯРТАЙЦЕСЯ НА МАГІЛЁЎСКУЮ УНІВЕРСАЛЬНУЮ РЭГІЯНАЛЬНУЮ БІРЖУ!**

**Вам прадставяць тут у поўным аб'ёме біржавыя каталогі на продаж і куплю тавараў, дапамогуць юрыдычна правільна аформіць біржавыя дакументы, забяспечаць страхаванне здзелак.**

**Пераважнае права на продаж і куплю тавараў прадастаўляецца прадстаўнікам аграпрамысловага комплексу: калгасам і саўгасам, аграфірмам і фермерам, аграпрамснабам і сельгаскааператывам.**

**ТАРГІ ПРАВОДЗЯЦЦА КОЖНУЮ СЕРАДУ З 11 ГАДЗІН РАНІЦЫ Ў ЗАЛЕ ПАСЯДЖЭННЯЎ ЦЭНТРАЛЬНАГА РАЙВЫКАНКОМА г. МАГІЛЁВА ПА АДРАСУ: ПРАСПЕКТ МІРУ, 55а.**

Заяўкі прымаюцца штодзённа.

**КАНТАКТНЫЯ ТЭЛЕФОНЫ: 239-239; 239-336.**

## Куды найбольш выгадна ўкласці грошы?

**— У АКЦЫІ АКЦЫЯНЕРНАГА ТАВАРЫСТВА «МАГІЛЁЎСКАЯ УНІВЕРСАЛЬНАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ БІРЖА».**

**Аб тым, наколькі гэта надзейна і зручна вам, скажуць самі акцыянеры — сапраўдныя гаспадары гэтага таварыства. Ужо ў першы год работы, а дакладней за няпоўныя восем месяцаў 1991 года курс акцый АТ «МУРБ» узрос больш чым у 3 разы.**

**Фінансавае становішча АТ «МУРБ» у значнай меры ўмацоўваецца і тым, што яно выгадна размяшчае свае капіталы ў прэстыжных акцыях іншых акцыянерных таварыстваў, такіх, як «РАСІЙСКАЯ ТАВАРНА-СЫРАВІННАЯ БІРЖА», «РАСІЙСКАЯ ФОНДАВАЯ БІРЖА», «ПРЫОРБАНК» І «ЛЕСПРАМБАНК», АКЦЫЯНЕРНАЕ ТАВАРЫСТВА «ЭЛТЫС», ТАДЖЫКСКА-РУСКІ ГАНДЛЁВЫ ДОМ «УСХОД-МЕРКУРЫЙ», «БЕЛАРУСКАЯ БІРЖА НАФТАПРАДУКТАЎ І ПАЛІМЕРАЎ», «КАЛІНІНГРАДСКАЯ ТАВАРНА-ФОНДАВАЯ БІРЖА», толькі што створаны ў г. Магілёве ГАНДЛЁВЫ ДОМ «ВОЛЬГА» і інш.**

12 КРАСАВІКА 1991 ГОДА БІРЖА ПАЧЫНАЛА СВОЙ ШЛЯХ У БУДУЧЫНЮ, ПА СУТНАСЦІ З НУЛЯ, А ЦЯПЕР ЯЕ АСНОЎНЫЯ ФОНДЫ ПЕРАВЫШАЮЦЬ 10 МІЛЬЁНАЎ РУБЛЁЎ.

**ФІНАНСАВАЕ СТАНОВІШЧА АКЦЫЯНЕРНАГА ТАВАРЫСТВА «МУРБ» СТАБІЛІЗАВАЛАСЯ НАСТОЛЬКІ, ШТО ЯНО НАБЫЛО МАГЧЫМАСЦЬ ВЫПУСЦІЦЬ ДАДАТКОВЫ ПАКЕТ АКЦЫЙ НА 2 МІЛЬЁНЫ РУБЛЁЎ. ІХ НАМІНАЛЬНЫ КОШТ 100 ТЫСЯЧ РУБЛЁЎ КОЖНАЯ.**

## Хто можа стаць уладальнікам гэтых акцый?

**У першую чаргу — працоўныя калектывы аграпрамысловага комплексу: калгасы, саўгасы, фермерскія і кааператыўныя гаспадаркі, аграфірмы і аграпрамснабы, а таксама любыя камерцыйныя фарміраванні, якія працуюць на развіццё аграпрамысловага комплексу. Не заказаны шлях да набыцця гэтых акцый і гараджанам, сярод якіх пераважнае права прадастаўляецца калектывам прадпрыемстваў перапрацоўчых галін аграпрамысловага комплексу.**

**Тэрмін падпіскі на гэтыя акцыі не абмежаваны, але і попыт на іх з кожным днём узрастае. А таму паспяшайцеся, спадары!**

Па ўсіх пытаннях, якія датычаць набыцця акцый, трэба звяртацца да дырэктара аграпрамысловай секцыі Магілёўскай універсальнай рэгіянальнай біржы Віктара Аляксандравіча Аршак'яна ці непасрэдна да старшыні біржавога савета Барыса Уладзіміравіча Кліменкі.

ІХ ТЭЛЕФОНЫ АДПАВЕДНА: 23-55-23 і 25-02-43.

## Брокерскія месцы — у арэнду

**БРОКЕРСКАЕ МЕСЦА...**

**КОЛЬКІ ЯНО КАШТУЕ!**

Часцей за ўсё ў сродках масавай інфармацыі называюцца пяці-, а часам і шасцізначныя лічбы — а дакладней, ад ста тысяч да паўтара мільёна рублёў. Аднак такія сродкі знойдуцца далёка не ў кожнага прадпрымальніка.

**ДЗЕ Ж ВЫЙСЦЕ!**

ЯГО ПРАДАСТАЎЛЯЕ ВАМ АКЦЫЯНЕРНАЕ ТАВАРЫСТВА «МАГІЛЁЎСКАЯ УНІВЕРСАЛЬНАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ БІРЖА».

**Тут вы можаце арандаваць брокерскае месца БЯСПЛАТНА.**

Але папярэдне неабходна выканаць умову: заключыць адну ці некалькі біржавых здзелак на пэўную суму.

**ХОЧАЦЕ ПАСПРАБАВАЦЬ ШЧАСЦЯ!**
КАЛІ ЛАСКА!

**ПА ЎСІХ ПЫТАННЯХ АРЭНДЫ БРОКЕРСКІХ МЕСЦ ТРЭБА ЗВЯРТАЦЦА Ў ІНФАРМАЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ МАГІЛЁЎСКАЙ УНІВЕРСАЛЬНАЙ РЭГІЯНАЛЬНАЙ БІРЖЫ ПА ТЭЛЕФОНЕ: 239-239.**

## *УДАЧЫ ВАМ, СПАДАРЫ!*




Галоўны рэдактар У. Б. НАРКЕВІЧ.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

*НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».*

*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў—32-04-52, 32-41-92, навін—32-15-02, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.*

ПА НУМАРУ ДЗЯЖУРЫЛІ: член рэдакцыйнай калегіі Людміла Рыжанкова, першы намеснік адказнага сакратара Віктар Краўчанка, старшы карэктар Ала Сабалеўская.

*Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.*

*Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.*

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63.850.
Зак. № 33.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.05.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12